Год. I. Пятніца 30 сьнежня 1921 г. № 7.

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki“ пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаушчыны!

## АБВЕСТКА.

Аддзел Асьветы пры Ц. К. К. С. паведамляе усіх беларускіх вучыцялеў, што яны у сваім інтэрэсе, як найхутчэй павінны зарэгістравацца у Аддзеле Асьветы. Тыя вучыцялі, якія ня могуць самі прыехаць у Вільню, павінны зьвярнуцца па пошце па анкетныя лісты, і запоўніўшы іх прыслаць у Асьветны Аддзел пры Цэнтральным Камітэце Краевай Сувязі: Вільня Ахвярная 4 пак. 2. Рэгістрацыя вядзецца у Аддзеле Асьветы, што дня ад 10 г. раніцаю да г.3-цей па палудні.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкаў высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымывацца, то высылка газэты будзе затрымана.*

Кантора газэты „Раніца“ паведамляе, што магазынам выпісываючым газэту дзеля прадажы, кантора будзе рабіць 30 проц. уступкі.

## Беларуская Прадвыбарная Акцыя.

Беларускі Выбарчы апарат ўжо зусім з'арганізаваны.

Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт месьціцца па **вул. Ахвярнай д. 4**; адчынены увесь дзень.

Усялякія інфармацыі выдаюцца дзяжурным.

Акружныя Беларускія Выбарчыя Камісіі ўжо ад тыдня працуюць у **Ашмянах і Камаях**.

Першая выбарчая літэратура расслана ў вялікім ліку экзэмпляраў.

Выбарчы Камісар п. **Адам Курыловіч**, аб'ехаў асабіста вокругі Ашмянскі і Камайскі.

Агульны настрой люднасьці прыхільны да выбараў.

Сьцьверджана, што шмат адозваў раскінута ўрадам Ластоўскага і партыяй эс-эраў.

Гэтыя дэмагагічныя звароты да народу ня маюць жадных водгукаў.

Выбарчыя сьпіскі на вокругі Ашмянскі і Камайскі аканчацельна зацьверджаны.

*Вільня 30 сьнежня.*

Да выбараў у Віленскі Сойм застаецца толькі дзесяць днёў— тэрмін вельмі кароткі і нашы палітычныя ворагі руплцца з усей моцы скарыстаць гэты час.

Праўда, праца іх ня толькі марная, але і вельмі цяжкая, бо трэба белае выдаць за чорнае...

Напрыклад, з усіх бакоў Віленшчыны надходзяць весткі, што усе жыхары, за выключэньнем некалькіх партый, адносяцца да выбараў вельмі прыхільна. Кожны дзень да нас у рэдакцыю заходзяць прыехаўшыя ў Вільню беларускія прадстаўнікі—сяляне, народныя вучыцелі, сьвяшчэньнікі, інтэрэсуюцца прадвыбарнай акцыей і ўсе, як адзін, кажуць, што найлепшы выхад для Сярэдняй Літвы— далучэньне да той часткі Беларусі, якая знаходзіцца пад Польскай Уладай. Усе, як адзін, кажуць, што будуць галасаваць, каб паслаць у Сойм сваіх прадстаўнікоў.

## БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

Па Ашмянскаму вокругу сьпісак № 6.

1. **Аляксюк Павал.**
2. Тарчэўскі Янка.
3. Карэнда Міхал.
4. Буткевіч Пётра.
5. Камароўскі Фэлікс.
6. Стрыга Аляксандар.
7. Субач Францык.
8. Ганусевіч Ігнат.
9. Родзька Андрэй.
10. Чыжэўская Мар'я.
11. Барчоўскі Язэп.
12. Семян Сьцяпан.

Па Камайскаму вокругу.

1. **Шышкоў Васіль.**
2. Бэкіш Янка.
3. Міхайлаў Фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

**А аднаднёўцы пад рознымі назвамі, але адной бальшавіцка-нямецкай фірмы, каб зьбіць з пэўнага шляху Беларускі народ, друкуюць фальшывыя нападкі ні бы то да іх „з усіх канцоў краю даходзяць весткі, што настрой насяленьня вельмі ня прыхільны да выбараў у ладжаны палякамі Сойм Вільні“.**

Мала гэтага, бальшавіцка-нямецкія найміты нагла зацьвярджаюць, ні бы то арганізаванае беларускае грамадзянства адмовілася „ад усялякага ўчасьця ў выбарах у Віленскі Сойм; зацьвярждаюць, што „выбары робяцца ў гэткіх ненармальных варунках дзеля таго, каб ніхто ня мог перашкодзіць Сойму прылучыць нашу Бацькаўшчыну да Польшчы, накінуць нам цяжкае ярмо панскае ўлады“.

Як раз ня ўсё „арганізованае беларускае грамадзянства“, а толькі маленькая група людзей, адорваных ад беларускага народу, людзей стаўшых на фальшывую дарогу сяброўства з ворагамі беларускай нацыянальнай ідэі і беларускага адраджэньня, людзей прадаючых сваю Бацькаўшчыну немцам і бальшавіком, толькі гэтая беларуская група вядзе наглую агітацыю проці выбараў у Сойм, а тое што засталося апроча гэтай маленькай групы — ўсе беларускае грамадзянства, — наймацнейшыя і найпаважнейшныя беларускія арганізацыі і партыі, сялянства — ўсе жадаюць падаюць свой голас у Віленскі Сойм, усе жадаюць мець сваіх пэўных прадстаўнікоў, якія баранілі бы ў Сойме беларускую справу і выявілі бы пажаданьне беларускага народу далучыцца да тых сваіх братоў, якія ўжо знаходзяцца пад Польскай Дзяржаўнасьцю, бо лепшага выхада для нас няма.

І чаму-ж гэтыя найміты кажуць, што выбары робяцца ў „ненармальных варунках“? У чым выяўляецца гэтая ненармальнасьць? Мо ў тым, што ў час выбараў дазволена такая свабода друку якой няма амаль ні ў адным гаспадарстве? Мо ў тым, што інстытуцыі свабодна робяць і пашыраюць сярод насяленьня фальшывыя пастановы, ўзурніруюць права кіраваць палітыкай ўсяго беларускага народу, без яго ведама і згоды?

Мо ў тым, што гэтыя найміты, свабодна, ні чым ня рызыкуючы, зводзяць, гаворучы, што выбары ў Сойм робяцца, каб „накінуць нам цяжкая ярмо панскае ўлады“?

Як можна гаварыць такую яўную няпраўду, калі ўсім ведама, якія шырокія правы для ўсіх жыхароў дае Польская Канстытуцыя!

Як можна гаварыць такую ману, калі ў нас ёсьць пэўныя дакумэнты аб тым, што нашы браты палякі крэсоўцы яшчэ ў пачатку гэтага году прызналі права на аўтаномнае істнаваньне Беларусі?

Не, паны найміты! Подлымі спосабамі вясьці барацьбу з сваімі палітычнымі ворагамі ня можна! Беларускага народу вы не ашукаеце—ён чуў ужо ўсялякія гамонкі, усялякія абяцанкі. Чуў і не адзін раз паверыў ім і потым разьлічыўся за іх сваёй скурай і крывёю, сваім коштам... Цяпер селянін паразумнеў і ня пойдзе з вамі, якія-бы вы яму пастановы і маніфэсты ня пісалі...

